**12** **220** гадоў з пачатку нацыянальна-вызваленчага **ПАЎСТАННЯ 1794 г.** у Польшчы, Беларусі і Літве, за аднаўленне незалежнасці і суверэнітэту Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., далейшае правядзенне рэформ Чатырохгадовага сойма 1788–1792 гг.

**12** **90** гадоў з дня нараджэння **ВЯЧАСЛАВА ЛЯВОНЦЬЕВІЧА ВЯРЭНІЧА** (1924, Столінскі р-н – 1999), мовазнаўца, замежнага члена-карэспандэнта Польскай акадэміі навук у Кракаве

**12** **85** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА ГАЎРЫЛАВІЧА КОЛБА** (1929, Пінскі р-н), вучонага ў галіне клінічнай біяхіміі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

**14** **515** гадоў з часу атрымання **г. МІНСК** граматы на магдэбургскае права (1499)

**14** **80** гадоў з дня нараджэння **МІХАСЯ** (МІХАІЛА ІВАНАВІЧА) **КЛЕБАНОВІЧА** (1934, Слуцкі р-н), пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі

**14** **40** гадоў з часу ўводу ў эксплуатацыю **БАРАНАВІЦКАГА ЗАВОДА АЎТАМАТЫЧНЫХ ЛІНІЙ**, рэспубліканскага ўнітарнага прамысловага прадпрыемства Беларускай чыгункі (Баранавічы; 1974)

**15** **125** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСЕЯ ЯКАЎЛЕВІЧА АБАКУМЕНКІ** (1889–1920), рускага ваеннага лётчыка, героя Першай сусветнай вайны, удзельніка фарміравання Брэст-Літоўскага крэпаснога авіяцыйнага атрада

**15** **20** гадоў з часу прыняцця **КАНСТЫТУЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**, асноўнага закона дзяржавы (1994), юрыдычнай базы ўсяго заканадаўства

**15** **ДЗЕНЬ КАНСТЫТУЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**17** **225** гадоў з дня нараджэння **ВІНЦЭНЦІЯ БУЧЫНСКАГА** (1789, Беларусь – 1853), філосафа, тэолага, крытыка, заснавальніка і рэдактара першага ў Беларусі літаратурна-навуковага часопіса “Полацкі штомесячнік” (1818–1820)

**17** **75** гадоў з дня нараджэння **СТАНІСЛАВА ІОСІФАВІЧА ДРОБЫША** (1939, Слуцкі р-н), харавога дырыжора, педагога, заслужанага работніка культуры Беларусі, арганізатара і мастацкага кіраўніка фальклорнага вакальна-харэаграфічнага ансамбля “Валачобнікі” Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў

**17** **75** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА ПАЎЛАВІЧА ЗАБЕЛЫ** (1939), рэжысёра, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982)

**18** **100** гадоў з дня нараджэння **ЮДЗІФ САМОЙЛАЎНЫ ГАЛЬПЕРЫНАЙ** (1914, Мазыр – 1985), актрысы, заслужанай артысткі Беларусі

**19** **75** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА УЛАДЗІМІРАВІЧА СВЕНТАХОЎСКАГА** (1939, Камянецкі р-н – 2006), жывапісца, педагога, лаўрэата спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2001)

**19** **55** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛЯ ІВАНАВІЧА СЯНКЕВІЧА** (1959, Драгічынскі р-н), мовазнаўца

**20** **75** гадоў з дня нараджэння **ЭМАНУІЛА РЫГОРАВІЧА ІОФЕ** (1939, Беразіно), вучонага-гісторыка, палітолага, сацыёлага, культуролага, педагога, даследчыка беларускай гістарыяграфіі, гісторыі навукі і культуры, гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі, аўтара кніг і шматлікіх публікацый

**20** **60** гадоў з дня нараджэння **МІКОЛЫ** (МІКАЛАЯ МІХАЙЛАВІЧА) **МЯТЛІЦКАГА** (1954, Хойніцкі р-н), паэта, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998)

**24** **65** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА ПЯТРОВІЧА САЛАМАХІ** (1949, Кіраўскі р-н), пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя К. Каліноўскага (2002)

**26** **35** гадоў з часу стварэння **БРЭСЦКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСТВА САВЕЦКА-ПОЛЬСКАЙ ДРУЖБЫ** (1979)

**27** **100** гадоў з дня нараджэння **ЛАРЫСЫ ДЗМІТРЫЕЎНЫ ЛЯШЭНКА** (1914, Вільня – 2004), дзеяча самадзейнага мастацтва, балетмайстра, педагога, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

**28** **95** гадоў з дня нараджэння **ВЕРЫ СЯМЁНАЎНЫ ПАЛТАРАН** (ЛЯПЕСКАЙ; 1919, Петрыкаўскі р-н – 1989), пісьменніцы, заслужанага работніка культуры Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя П.М. Лепяшынскага (1970)

**28** **80** гадоў з дня нараджэння **КАСТУСЯ** (КАНСТАНЦІНА АЛЯКСЕЕВІЧА) **ЦВІРКІ** (1934, Старадарожскі р-н), паэта, перакладчыка, фалькларыста, этнографа

**28** **75** гадоў з дня нараджэння **ФЁДАРА ЕМЯЛЬЯНАВІЧА БОГДАНА** (1939, Брэсцкі р-н), спевака, заслужанага артыста Украіны

**30** **275** гадоў з дня нараджэння **ПАЎЛА КСАВЕРЫ БЖАСТОЎСКАГА** (1739, Глыбоцкі р-н – 1827), дзяржаўнага дзеяча Рэчы Паспалітай, рэфарматара, мецэната, перакладчыка, заснавальніка першай у Еўропе “сялянскай рэспублікі”

## ***КРАСАВІК***

**150** гадоў з часу заснавання **ВІЛЕНСКАЙ АРХЕАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ** (Віленскай камісіі для разбору і выдання старажытных актаў), афіцыйнай навуковай установы, чые выданні з’яўляюцца важнай крыніцай вывучэння гісторыі, эканомікі, культуры Беларусі, гісторыі беларускай мовы (Вільня; 1864–1915)

**50** гадоў з часу стварэння **БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ “РАДЗІМА”** (Мінск; 1964), грамадскага аб’яднання

**30** гадоў з пачатку правядзення міжнароднага фестывалю музыкі **“МІНСКАЯ ВЯСНА”** (1984)

**1** **25** гадоў з часу стварэння РУП **“БЕЛАРУСКІ ВІДЭАЦЭНТР”**, буйнейшага вытворца відэапрадукцыі ў Беларусі (Мінск; 1989)

**2** **ДЗЕНЬ ЯДНАННЯ НАРОДАЎ БЕЛАРУСІ І РАСІІ**

4 **200** гадоў з дня нараджэння **ІОСІФА АНТОНАВІЧА ГАШКЕВІЧА** (1814, Рэчыцкі пав. – 1875), дыпламата, мовазнаўца, даследчыка Японіі і Кітая, арыенталіста, натураліста

4 **100** гадоў з дня нараджэння **АЛЕНЫ РЫГОРАЎНЫ МАЗАНІК** (1914, Пухавіцкі р-н – 1996), удзельніцы Мінскага патрыятычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза (1943), заслужанага работніка культуры Беларусі

4 **85** гадоў з дня нараджэння **ВЯЧАСЛАВА МІКАЛАЕВІЧА МАРОЗАВА** (1929), пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі

5 **75** гадоў з дня нараджэння **ЛЕАНІДА ВАСІЛЬЕВІЧА МАКАРЭВІЧА** (1939, Івацэвіцкі р-н), заслужанага архітэктара Беларусі

6 **110** гадоў з дня нараджэння **МІКОЛЫ ХВЕДАРОВІЧА** (сапр. МІКАЛАЙ ФЁДАРАВІЧ ЧАРНУШЭВІЧ; 1904, Капыль – 1981), паэта, празаіка, перакладчыка

10 **70** гадоў з дня нараджэння **РЫГОРА ПЯТРОВІЧА РЫЧАГОВА** (1944, Столінскі р-н), вучонага ў галіне хірургіі, аўтара прац па хірургічнай гастраэнтэралогіі, агульнай хірургіі, малінвазійных тэхналогіях, выдатніка аховы здароўя Беларусі

12 **55** гадоў з дня нараджэння **НАТАЛЛІ УЛАДЗІМІРАЎНЫ ПРЫСТУПА** (1959, Пінскі р-н – 2006), пісьменніцы

18 **200** гадоў з дня нараджэння **ЯЎСТАФІЯ ПІЕВІЧА ТЫШКЕВІЧА** (1814, Лагойск – 1873), гісторыка, археолага, этнографа, краязнаўца, музеязнаўца, аднаго з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі, ганаровага члена Пецярбургскай і Стакгольмскай АН, Лонданскага археалагічнага інстытута, заснавальніка і старшыні Віленскай археаграфічнай камісіі

20 **ВЯЛІКДЗЕНЬ** (па календары каталіцкай канфесіі)

20 **ВЯЛІКДЗЕНЬ** (па календары праваслаўнай канфесіі)

20 **70** гадоў з дня нараджэння **ЯЎГЕНА РЫГОРАВІЧА ЛЕЦКІ** (1944, Навагрудскі р-н), пісьменніка, перакладчыка, літаратурнага крытыка, літаратуразнаўца, журналіста, аўтара сцэнарыяў шэрагу дакументальных фільмаў

21 **80** гадоў з дня нараджэння **АРКАДЗЯ ФЯДОСАВІЧА РЫЛЮКА** (1934, Драгічынскі р-н), вучонага ў галіне хірургіі, выдатніка аховы здароўя Беларусі

25 **110** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛЯ ВАСІЛЬЕВІЧА БАРЫСЕНКІ** (1904, Барысаў – 1984), літаратуразнаўца, крытыка, акадэміка НАН Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1980)

26 **ДЗЕНЬ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЕДЫІ** (1986)

26 **115** гадоў з дня нараджэння **ІЛЫ ДАНІЛАВІЧА ГУРСКАГА** **(**1899, Уздзенскі р-н – 1972), пісьменніка, драматурга, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

28 **175** гадоў з дня нараджэння **МСЦІСЛАВА АДАМАВІЧА КАМІНСКАГА** (1839, Віленская губ. – 1868), літаратара, этнографа,

фалькларыста і публіцыста, які зрабіў адну з першых спроб навуковай класіфікацыі беларускіх прыказак, прымавак і фразеалагізмаў

29 **85** гадоў з дня нараджэння **ВІТАЛІЯ ЦІМАФЕЕВІЧА ГАЛАВАЧА** (1929, Украіна), пісьменніка

29 **20** гадоў з часу стварэння на базе цэха па вырабніцтву марожанага Брэсцкага малочнага камбіната **БРЭСЦКАЙ ВЫТВОРЧАЙ ФІРМЫ “МАРОЖАНАЕ”** (1994)

29 **РАДАЎНІЦА** (па календары праваслаўнай канфесіі)

## *МАЙ*

1 **СВЯТА ПРАЦЫ**

1 **125** гадоў з дня нараджэння **РЫГОРА МАЙСЕЕВІЧА ЛЯПЛЕЎСКАГА** (1889, Брэст – 1939), рэвалюцыянера, дзяржаўнага дзеяча, удзельніка ўстанаўлення савецкай улады ў Гомелі

1 **80** гадоў з дня нараджэння **МІКОЛЫ** (МІКАЛАЯ ПАЎЛАВІЧА) **КОРЗУНА** (1934, Салігорскі р-н – 1995), пісьменніка

1 **75** гадоў з дня нараджэння **НАТАЛЛІ ВІКТАРАЎНЫ ГАЙДА** (1939), артысткі оперы і аперэты, народнай артысткі Беларусі, лаўрэата тэатральнай прэміі імя Л. Александроўскай (1992), уладальніцы “Хрустальнай Паўлінкі” (1992), кавалера ордэнаў “Знак Пашаны” і Францыска Скарыны

1 **65** гадоў з дня нараджэння **ПАЎЛА УЛАДЗІМІРАВІЧА ШЫПУКА** (1949, Іванаўскі р-н), дзяржаўнага дзеяча Беларусі, акадэміка Беларускай інжынернай акадэміі

2 **100** гадоў з дня нараджэння **ФЁДАРА АЛЯКСЕЕВІЧА МАЛЫШАВА** (1914, Петрыкаўскі р-н – 2005), удзельніка партызанскага руху ў Палескай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза (1944)

2 **80** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСЕЯ КУЗЬМІЧА ГАРДЗІЦКАГА** (1934, г. Брэст – 1999), крытыка, літаратуразнаўца

2 **60** гадоў з дня нараджэння **КАСТУСЯ** (КАНСТАНЦІНА ЯКАЎЛЕВІЧА) **ЖУКА** (1954, Нясвіжскі р-н), паэта, лаўрэата прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1999)

3 **75** гадоў з дня нараджэння **ЛЕАНІДА АЛЯКСЕЕВІЧА НЯЧАЕВА** (1939–2010), рэжысёра, сцэнарыста, народнага артыста Расіі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Расіі (1993), у 1973–1990 гг. працаваў на кінастудыі “Беларусьфільм”

4 **215** гадоў з дня нараджэння **ФЛАРЫЯНА БОХВІЦА** (1799, г.п. Мір – 1856), вучонага ў галіне філасофіі, пісьменніка

4 **95** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА ПАЎЛАВІЧА ШАСЦЕРЫКОВА** (1919–1994), пісьменніка

5 **ДЗЕНЬ ДРУКУ**

5 **195** гадоў з дня нараджэння **СТАНІСЛАВА МАНЮШКІ** (1819, Чэрвеньскі р-н – 1872), польскага і беларускага кампазітара, дырыжора, педагога, стваральніка нацыянальнай класічнай оперы,

першых нацыянальных сімфанічных твораў

5 **65** гадоў з дня нараджэння **ВАЛЯНЦІНЫ ЦЕХАНОВІЧ** (1949, Навагрудак), мастачкі

6 **110** гадоў з дня нараджэння **ПАЎЛЮКА** (ПАЎЛА АДАМАВІЧА) **ТРУСА** (1904, Уздзенскі р-н – 1929), паэта, аўтара лірыка-гераічных і фальклорна-рамантычных паэм, вершаў

7 **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ РАДЫЁ, ТЭЛЕБАЧАННЯ І СУВЯЗІ**

7 **70** гадоў з дня нараджэння **АЛЕНЫ СЯРГЕЕЎНЫ ЦЯЛЬКОВАЙ** (1944, Пінск), спявачкі, народнай артысткі Беларусі, мастацкага кіраўніка фальклорнай групы “Купалінка” Беларускай дзяржаўнай філармоніі

8 **80** гадоў з дня нараджэння **МІКОЛЫ** (МІКАЛАЯ ІВАНАВІЧА) **ГАНЧАРОВА** (1934, Віцебскі р-н – 1991), графіка, мастацтвазнаўца, пісьменніка

9 **ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ**

9 **105** гадоў з дня нараджэння **УЛАДАСА АБРАМАВІЧУСА** (1909–1965), бібліёграфа, гісторыка культуры, аўтара даследаванняў і публікацый, прысвечаных Беларусі

11 **ДЗЕНЬ ДЗЯРЖАЎНАГА ГЕРБА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І ДЗЯРЖАЎНАГА СЦЯГА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** (другая нядзеля мая)

11 **120** гадоў з дня нараджэння **СЦЯПАНА ГЕРАСІМАВІЧА БУЛАТА** (1894, Уздзенскі р-н – 1921), дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, журналіста, першага адказнага рэдактара газеты “Белорусская деревня” (цяпер “Белорусская нива”)

13 **75** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСЕЯ** (ЛЕАНІДА**) ГЕОРГІЕВІЧА ФІЛАТАВА** (1939, Віцебскі р-н), пісьменніка

15 **ДЗЕНЬ СЯМ’І**

15 **60** гадоў з дня нараджэння **НАТАЛЛІ ЧОРНАГАЛОВАЙ** (1954, Жыткавічы), мастачкі, дыпламанта рэспубліканскай выставы “Панарама мастацтва” (1998)

15 **35** гадоў з часу адкрыцця **МУЗЕЯ СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ІНСТЫТУТА МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ НАН БЕЛАРУСІ** (Мінск; 1979)

16 **125** гадоў з часу першай публікацыі ў газеце “Минский листок” беларускай паэмы **“ТАРАС НА ПАРНАСЕ”** (1889)

18 **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ФІЗКУЛЬТУРЫ І СПОРТУ (**трэцяя нядзеля мая)

19 **70** гадоў з часу стварэння **ДЗЯРЖАЎНАГА ЛІТАРАТУРНАГА МУЗЕЯ ЯНКІ КУПАЛЫ** (Мінск; 1944), лаўрэата спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2012)

20 **130** гадоў з дня нараджэння **КАНСТАНЦІНА АНДРЭЕВІЧА АЛЕКСЮТОВІЧА** (1884, Пухавіцкі р-н – 1943), балетмайстра, педагога, пастаноўшчыка сцэнічных варыянтаў народных, класічных і характарных танцаў, кадрыляў, карагодаў, гульняў, аўтара беларускага танца “Бульба”

**20** **80** гадоў з дня нараджэння **НАДЗЕІ СЯРГЕЕЎНЫ ЖАЎРЫД** (1934, Пружанскі р-н), вучонага-матэматыка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982)

**21** **145** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ МІКАЛАЕВІЧА ЧУРКІНА** (1869–1964), кампазітара, фальклstyста, аднаго з заснавальнікаў беларускай прафесійнай музыкі, народнага артыста Беларусі

**22** **75** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ УЛАДЗІМІРАВІЧА ФЕДАРОВІЧА** (1939, Пінскі р-н), вучонага ў галіне алергалогіі, імуналогіі, прафпаталогіі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2002)

**24** **110** гадоў з дня нараджэння **АДАМА ГЕРАСІМАВІЧА РУСАКА** (1904, Капыльскі р-н – 1987), паэта, на словы якога напісана каля 300 песень, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

**26** **95** гадоў з часу адкрыцця ў г. Брэсце **ДРУКАРНІ** Гінзбурга (1919)

**27** **100** гадоў з дня нараджэння **АНТОНА ПЯТРОВІЧА БЯЛЕВІЧА** (1914, Уздзенскі р-н – 1978), паэта, празаіка, перакладчыка, кавалера ордэна “Знак Пашаны”

**28** **ДЗЕНЬ ПАГРАНІЧНІКА**

## ***ЧЭРВЕНЬ***

**90** гадоў з пачатку выдання штомесячнага навукова-педагагічнага часопіса **“НАРОДНАЯ АСВЕТА”** (Мінск; 1924)

**4** **65** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ ПЯТРОВІЧА САКАЛОВА** (1949, Давыд-Гарадок), мастака

**5** **ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ СВЯТОЙ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ**

**5** **ДЗЕНЬ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ**

**5** **160** гадоў з дня нараджэння **ЮДАЛЯ** (ІЕГУДЫ) **МОЎШАВІЧА** (ЮРЫЯ МАЙСЕЕВІЧА) **ПЭНА** (1854–1937), жывапісца, педагога, стваральніка Віцебскай мастацкай школы

**5** **55** гадоў з дня нараджэння **ВЯЧАСЛАВА МІХАЙЛАВІЧА ІВАНЧУКА** (1959, Брэст), трэнера (стральба з лука), майстра спорту СССР, заслужанага трэнера Беларусі

**7** **75** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА МАКСІМАВІЧА СКАРЫНКІНА** (1939, Віцебск), паэта, перакладчыка, лаўрэата Нацыянальнай прэміі Італіі (1998), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы (2000)

**8-14** **80** гадоў з пачатку заснавання **САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**, грамадскага аб’яднання (Мінск; 1934)

**10** **240** гадоў з дня нараджэння **АНТОНІЯ САМУЭЛЯ ДАМБРОЎСКАГА** (1774, Тураў – 1838), жывапісца і тэатральнага мастака, аўтара твораў у галіне манументальнага і станковага жывапісу

**10** **95** гадоў з дня нараджэння **АВЯР’ЯНА САФОНАВІЧА ДЗЕРУЖЫНСКАГА** (1919, Кармянскі р-н – 2002), паэта, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Я. Маўра (2002)

10 **75** гадоў з дня нараджэння **ХВЕДАРА** (ФЁДАРА МІКАЛАЕВІЧА) **ЧЭРНІ** (1939, Валожынскі р-н – 1983), паэта

12 **270** гадоў з дня нараджэння **ЮЗАФА МІЦКЕВІЧА** (1744, Гродзенскі пав. – 1817), механіка, фізіка, асветніка, педагога, “бацькі фізікі на Літве”

12 **80** гадоў з дня нараджэння **АЛЕСЯ** (АЛЯКСАНДРА СЯМЁНАВІЧА) **ЯСКЕВІЧА** (1934, Чэрыкаўскі р-н), літаратуразнаўца, крытыка, біблеіста

13 **180** гадоў з дня нараджэння **КАНСТАНЦІНА ВАСІЛЬЕВІЧА ВЕРАНІЦЫНА** (ВАСІЛЬЕВА; 1834, Гарадоцкі р-н – 1904), аднаго з удзельнікаў літаратурнага жыцця на Беларусі ў сярэдзіне XIX ст., магчымага аўтара паэмы “Тарас на Парнасе”

15 **60** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА ІВАНАВІЧА КРУКА** (1954, Чэрвеньскі р-н), вучонага-фалькларыста, культуролага, педагога

16 **180** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСАНДРА КАРЛАВІЧА ЕЛЬСКАГА** (1834, Пухавіцкі р-н – 1916), гісторыка, этнографа, краязнаўца, пісьменніка, перакладчыка, публіцыста, члена Акадэміі ведаў у Кракаве

16 **125** гадоў з дня нараджэння **ЛЬВА АЛЯКСАНДРАВІЧА ЗЯНКЕВІЧА** (1889–1970), вучонага-акіянолага, гідрабіёлага, арганізатара комплексных экспедыцыйных даследаванняў вадаёмаў Беларусі, ініцыятара стварэння Нарачанскай біялагічнай станцыі (1946), акадэміка АН СССР, лаўрэата Ленінскай (1965) і Дзяржаўнай (1951) прэмій СССР

19 **90** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛЯ УЛАДЗІМІРАВІЧА БЫКАВА** (1924, Ушацкі р-н – 2003), пісьменніка, грамадскага дзеяча, народнага пісьменніка Беларусі, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1978), Ленінскай прэміі (1986), расійскай прэміі “Трыумф” (1999), Героя Сацыялістычнай Працы (1984)

21 **150** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСАНДРА КАЗІМІРАВІЧА СЕРЖПУТОЎСКАГА** (1864, Слуцкі пав. – 1940), этнографа, фалькларыста, мовазнаўца, правадзейнага члена Інбелкульта

21 **100** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА МІХАЙЛАВІЧА ГОВАР-БАНДАРЭНКІ** (1914, Рагачоў – 1988), акцёра, заслужанага артыста Беларусі

21 **80** гадоў з дня нараджэння **ВІКТАРА КАНДРАТАВІЧА ХАЎРАТОВІЧА** (1934, Магілёўскі р-н – 1991), паэта

22 **ДЗЕНЬ УСЕНАРОДНАЙ ПАМЯЦІ АХВЯР ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ**

23 **70** гадоў з пачатку правядзення **БЕЛАРУСКАЙ АПЕРАЦЫІ “БАГРАЦІЁН” (1944),** адной з буйнейшых стратэгічных наступальных аперацый Савецкай арміі ў Вялікую Айчынную вайну

25 **90** гадоў з часу прыняцця пастановы СНК БССР аб стварэнні **НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КНІЖНАЙ ПАЛАТЫ БЕЛАРУСІ** (Мінск; 1924)

26 **40** гадоў з дня прысваення **г. МІНСК** ганаровага звання “Горад-герой” (1974)

27 **230** гадоў з дня нараджэння **ЛЕАНА БАРОЎСКАГА** (1784, Піншчына – 1846), польскага літаратуразнаўца, педагога, публіцыста, крытыка, тэарэтыка паэзіі і красамоўства

27 **80** гадоў з дня нараджэння **ВІКТАРА ФІЛІМОНАВІЧА КАРАМАЗАВА** (1934, Чэрыкаў), пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя К. Каліноўскага (1990)

27 **75** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА АЛЯКСАНДРАВІЧА НІКАЛАЕВА** (1939, Украіна – 1997), мастака, які працаваў у манументальна-дэкаратыўным і станковым жывапісу, а таксама ў галіне сцэнаграфіі

29 **35** гадоў з часу стварэння РУВП **«ЗАВОД "КАМЕРТОН" НАВУКОВА-ВЫТВОРЧАГА АБ'ЯДНАННЯ "ІНТЭГРАЛ"»,** аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь і СНД у галіне электроннай прамысловасці і адзінага вытворца крэмніевых пласцін на тэрыторыі Беларусі (Пінск; 1979)

29 **30** гадоў з часу адкрыцця **МІНСКАГА МЕТРАПАЛІТЭНА** (1984)

29 **ДЗЕНЬ МОЛАДЗІ** (апошняя нядзеля чэрвеня)

## ***ЛІПЕНЬ***

**55** гадоў з часу адкрыцця **БАРАНАВІЦКАГА ТЭХНАЛАГІЧНАГА КАЛЕДЖА** (1959), з пачатку заснавання – Баранавіцкі кааператыўны тэхнікум, з 1964 г. – Баранавіцкі тэхналагічны тэхнікум

1 **445** гадоў з часу прыняцця **ЛЮБЛІНСКАЙ УНІІ**, міжнародна-прававога акта аб'яднання ВКЛ і Польшчы ў федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую (1569)

1 **90** гадоў з часу стварэння **ГІДРАМЕТЭАРАЛАГІЧНАЙ СЛУЖБЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** (Мінск; 1924)

2 **105** гадоў з дня нараджэння **ЦІХАНА ПІМЕНАВІЧА БУМАЖКОВА** (1909–1941), аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на тэрыторыі Палескай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза (1941)

3 **ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** (ДЗЕНЬ РЭСПУБЛІКІ)

3 **70** гадоў з часу **ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ У ВЯЛІКУЮ АЙЧЫННУЮ ВАЙНУ** (1944)

3 **70** гадоў з часу вызвалення **г. МІНСК** ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (1944)

4 **110** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ АДАМАВІЧА АЛЬШЭЎСКАГА** (1904, Бяроза – 1937), дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыста

5 **225** гадоў з дня нараджэння **ФАДЗЕЯ ВЕНЯДЗІКТАВІЧА БУЛГАРЫНА** (1789, Уздзенскі р-н – 1859), расійскага журналіста, пісьменніка, літаратурнага крытыка

**5** **45** гадоў з часу адкрыцця **"ХАТЫНІ"**, мемарыяльнага комплекса па ўшанаванні памяці жыхароў в. Хатынь Лагойскага раёна і іншых беларускіх вёсак, знішчаных нямецка-фашысцкімі захопнікамі разам з насельніцтвам у Вялікую Айчынную вайну (Лагойскі р-н; 1969)

**6** **105** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ ІВАНАВІЧА ГРЫЦАЎЦА** (1909, Баранавіцкі р-н – 1939), удзельніка вайны ў Іспаніі 1936–1939 гг., першага двойчы Героя Савецкага Саюза (люты і жнівень 1939 г.)

**9** **55** гадоў з часу адкрыцця ў в. Чарнаўчыцы Брэсцкага р-на першага ў БССР **КАЛГАСНАГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ** (1959)

**9** **70** гадоў з дня нараджэння **НІНЫ КАНСТАНЦІНАЎНЫ ЗАЛЕЎСКАЙ** (1944, Пружанскі р-н), балетмайстра, педагога, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, лаўрэата спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2002)

**11** **80** гадоў з дня нараджэння **ВІКТАРА ЛУК'ЯНАВІЧА ВУЯЧЫЧА** (1934–1999), эстраднага спевака, народнага артыста Беларусі

**12** **120** гадоў з дня нараджэння **АНТОНА АНТОНАВІЧА УСА** (1894, Іўеўскі р-н – 1980), мастацтвазнаўца

**12** **100** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА МАРТЫНАВІЧА АЛЕЙНІКАВА** (1914, Шклоўскі р-н – 1965), кінаакцёра

**13** **125** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ ПІЛІПАВІЧА НІКАЛАЕВА** (1889–1973), тэатральнага мастака, народнага мастака Беларусі, заслужанага артыста Расіі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР (1950)

**13** **65** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ АЛЯКСАНДРАВІЧА КОНЦУБА** (1949, Столінскі р-н), мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (кераміка), жывапісца, заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі

**14** **110** гадоў з часу адкрыцця ў г. Брэсце **ДЗЯРЖАЎНАЙ ЖАНОЧАЙ ГІМНАЗІІ** (1904)

**15** **75** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛЯ СЦЯПАНАВІЧА МАКАРЭВІЧА** (1939, Крупскі р-н), паэта, журналіста, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1994)

**16** **70** гадоў з часу правядзення **ПАРТЫЗАНСКАГА ПАРАДА** (Мінск; 1944), які адбыўся ў гонар вызвалення сталіцы Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і баявых заслуг партызан

**16** **50** гадоў з часу адкрыцця **ФАБРЫКІ ПА ВЫРАБНІЦТВУ СУВЕНІРАЎ** (Брэст; 1964)

**17** **55** гадоў з дня нараджэння **ВОЛЬГІ ІВАНАЎНЫ РУСІЛКА** (1959, Шчучынскі р-н), паэтэсы, літаратуразнаўцы

**18** **105** гадоў з дня нараджэння **АНДРЭЯ АНДРЭЕВІЧА ГРАМЫКІ** (1909, Веткаўскі р-н – 1989), партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, дыпламата, лаўрэата Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій СССР (1984)

**18** **30** гадоў з часу стварэння **БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА МАЛАДЗЁЖНАГА ТЭАТРА** (Мінск; 1984), адкрытага 30.04.1986

**19** **145** гадоў з дня нараджэння **ЛЯВОНА ІВАНАВІЧА ВІТАН-ДУБЕЙКАЎСКАГА** (ДУБЯЙКОЎСКАГА; 1869 ці 1867, Мсціслаўскі р-н – 1940), архітэктара,

будаўніка, педагога, паэта

19 **95** гадоў з часу правядзення **КАМУНІСТЫЧНАГА СУБОТНІКА**, першага на Беларусі (Віцебск; 1919)

19 **60** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ ІВАНАВІЧА ШУШКО** (1954, Пінскі р-н), пісьменніка

20 **90** гадоў з дня нараджэння **МІКОЛЫ** (МІКАЛАЯ ПІЛІПАВІЧА) **ЛУК'ЯНАВА** (1924, Кіраўскі р-н – 2004), пісьменніка, заслужанага работніка сацыяльнага забеспячэння Беларусі

21 **85** гадоў з дня нараджэння **ВІКТАРА АНТОНАВІЧА КАВАЛЕНКІ** (1929, Валожынскі р-н – 2001), крытыка, літаратуразнаўца, празаіка, акадэміка НАН Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі ім. Я. Коласа (1980)

22 **65** гадоў з дня нараджэння **АЛЕГА ВАСІЛЬЕВІЧА ЛЯШУКА** (1949, Брэст), архітэктара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1988)

23 **50** гадоў з дня нараджэння **ІГАРА ХВЕДАРАВІЧА** (ФЁДАРАВІЧА) **СІДАРУКА** (1964, Кобрын), пісьменніка, драматурга

24 **85** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІСЛАВА ІОСІФАВІЧА НЯДЗВЕДСКАГА** (1929, Салігорскі р-н – 1973), пісьменніка

26 **60** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА ІВАНАВІЧА ПАЧЫНЧУКА** (1954, Маларыцкі р-н – 1991), спартсмена, майстра спорту СССР міжнароднага класа, сярэбранага прызёра ХХІІ Алімпійскіх гульняў (Масква; 1980), сярэбранага прызёра чэмпіянату Еўропы (1978), рэкардсмена свету і Еўропы

27 **65** гадоў з дня нараджэння **ЮРЫЯ УЛАДЗІМІРАВІЧА ЧАНТУРЫІ** (1949, Мінск), архітэктара, гісторыка архітэктуры, аднаго з аўтараў генеральных планаў гарадоў Брэст, Орша, серыі малых гарадоў, дэталёвага плана цэнтра г. Пінск

28 **70** гадоў з часу **ВЫЗВАЛЕННЯ г. БРЭСТА АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ** (1944)

31 **95** гадоў з дня нараджэння **СЦЯПАНА ІВАНАВІЧА КУХАРАВА (**1919, Краснапольскі р-н – 2011), пісьменніка, нарысіста, заслужанага работніка культуры Беларусі

## ***ЖНІВЕНЬ***

**90** гадоў з часу адкрыцця ў г. Брэсце грамадствам прафесійнай адукацыі **ГАНДЛЁВАЙ ШКОЛЫ** (1924)

**80** гадоў з часу стварэння ў м. Бяроза-Картузская Пружанскага павета **КАНЦЛАГЕРА** для ізаляцыі ліц, абвінавачаных у антыдзяржаўнай дзейнасці (1934)

**70** гадоў з часу стварэння ААТ **"БЯРОЗАЎСКІ СЫРАРОБНЫ КАМБІНАТ"**, аднаго з буйнейшых сыраробчых прадпрыемстваў Беларусі (1944)

1 **100** гадоў з часу абвяшчэння Германіяй вайны Расіі – **ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ 1914–1918 гг.**

1 **70** гадоў з часу стварэння ААТ **"БАРХІМ",** вядучага прадпрыемства Беларусі па вытворчасці тавараў бытавой хіміі (Баранавічы; 1944)

2 **465** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ КРЫШТОФА РАДЗІВІЛА** (мян. СІРОТКА; 1549–1616), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ, пісьменніка, мецэната

4 **70** гадоў з часу заснавання ў г. Брэсце **СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ № 1** (1944)

5 **65** гадоў з дня нараджэння **МІХАІЛА АЛЯКСАНДРАВІЧА ШАВЕЛЯ** (1949, Пружанскі р-н), тэатральнага дзеяча, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, дырэктара-мастацкага кіраўніка Брэсцкага тэатра лялек

6 **130** гадоў з дня нараджэння **ЯЎГЕНА ІВАНАВІЧА ХЛЯБЦЭВІЧА** (1884, Слонімскі р-н – 1953), беларускага і расійскага бібліятэказнаўца, кнігазнаўца, бібліёграфа, літаратуразнаўца, дзеяча беларускага культурна-грамадскага руху пач. ХХ ст.

6 **60** гадоў з часу выхада першага нумара газеты "Социалистический путь", з 1962 г. – газета **"ЗАРЯ НАД БУГОМ"** (1954)

7 **135** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА АНТОНАВІЧА КРАЧЭЎСКАГА (**КРЭЧЭЎСКАГА; 1879, Кобрынскі пав. – 1928), беларускага палітычнага дзеяча, паэта, драматурга, гісторыка

8 **140** гадоў з дня нараджэння **БАРЫСА МІКАЛАЕВІЧА ЖУКОВІЧА** (1874, Пружанскі р-н – 1938), гісторыка, архівіста

10 **135** гадоў з дня нараджэння **ЯКАВА ПІНКУСАВІЧА ГРОМЕРА** (1879, Брэст – 1933), вучонага-матэматыка, асістэнта А. Эйнштэйна ў Берліне (1915–1928 гг.) і суаўтара некаторых яго прац

10 **85** гадоў з дня нараджэння **АЛЕСЯ** (АЛЯКСАНДРА СЯРГЕЕВІЧА) **СТАВЕРА** (1929, Докшыцкі р-н – 1995), паэта

12 **615** гадоў **БІТВЕ НА ВОРСКЛЕ**, бітве паміж войскамі ВКЛ і Залатой Арды (1399)

14 **75** гадоў з дня нараджэння **ГЕОРГІЯ СЦЯПАНАВІЧА ТАМАШЭВІЧА** (1939, Нясвіжскі р-н), паэта, заслужанага журналіста Беларускага саюза журналістаў, старшыні Брэсцкай абласной арганізацыі Беларускага саюза журналістаў

17 **385** гадоў з дня нараджэння **ЯНА ІІІ САБЕСКІ** (1629–1696), вялікага князя ВКЛ і караля Польшчы, які ўвайшоў у гісторыю як выдатны палкаводзец, мецэнат, апякун навукі і мастацтва ў Рэчы Паспалітай

17 **110** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСАНДРЫ ІВАНАЎНЫ ФЕДАСЮК** (1904, Кобрынскі р-н – 1995), дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, удзельніцы партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны

18 **115** гадоў з дня нараджэння **МІРОНА ЕМЯЛЬЯНАВІЧА КРЫШТАФОВІЧА** (1899, Пружанскі р-н – 1985), удзельніка рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, аднаго з арганізатараў антыфашысцкага падполля і партызанскага руху ў Брэсцкай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, ганаровага грамадзяніна г. Брэста

18 **105** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА ІВАНАВІЧА ВАЛАСЕВІЧА** (1909, Бярозаўскі р-н – 1941), удзельніка савецка-фінляндскай 1939–1940 гг. і Вялікай Айчыннай войнаў, Героя Савецкага Саюза (1940)

**18** **90** гадоў з дня нараджэння **МІХАІЛА ЯСЕНЯ** (сапр. МІХАІЛ АРОНАВІЧ ГОЛЬДМАН; 1924, Мінск – 2006), паэта

**20** **80** гадоў з дня нараджэння **МІХАСЯ** (МІХАІЛА ПРОХАРАВІЧА) **ПАРАХНЕВІЧА** (1934, Старадарожскі р-н – 2001), паэта, празаіка, публіцыста, аўтара твораў для дзяцей і юнацтва

**21** **65** гадоў з дня нараджэння **СЦЯПАНА СЦЯПАНАВІЧА ПЯСЕЦКАГА** (1949, Івацэвіцкі р-н), вучонага ў галіне матэрыялазнаўства, лаўрэата прэміі Ленініскага камсамола Беларусі (1975)

**24** **65** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА ІВАНАВІЧА БРЫГАДЗІНА** (1949, Іванаўскі р-н), вучонага-гісторыка, заслужанага работніка адукацыі Беларусі

**25** **115** гадоў з дня нараджэння **ЭДУАРДА ЛЬВОВІЧА АРШАНСКАГА** (1899–1974), кінарэжысёра, які паставіў адзін з першых беларускіх гукавых мастацкіх фільмаў “Баям насустрач” (1932)

**27** **110** гадоў з дня нараджэння **СЦЯПАНА ПІЛІПАВІЧА ПАЦЯРУХІ** (1904, Пружанскі р-н – 1982), дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў падполля і партызанскага руху ў Брэсцкай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну

**28** **80** гадоў з дня нараджэння **ЗМІТРА** (ДЗМІТРЫЯ АЛЯКСАНДРАВІЧА) **БЯСПАЛАГА** (1934, Хойнікаўскі р-н – 1999), пісьменніка, аўтара анімалістычных казак, апавяданняў, нарысаў

**30** **210** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСАНДРА ХОДЗЬКІ** (БАРЭЙКІ; 1804, Мядзельскі р-н – 1891), паэта, фалькларыста, славіста, усходазнаўца

**30** **60** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСАНДРА РЫГОРАВІЧА ЛУКАШЭНКІ** (1954, Аршанскі р-н), Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Галоўнакамандуючага Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь, старшыні Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь, прэзідэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі

**31** **120** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСАНДРА ВАСІЛЬЕВІЧА ГРУБЭ** (1894–1980), скульптара, аднаго з арганізатараў і старшыні Ўсебеларускага аб’яднання мастакоў, народнага мастака Беларусі

**31** **15** гадоў з часу заснавання **РЭСПУБЛІКАНСКАГА ГІДРАМЕТЭАРАЛАГІЧНАГА ЦЭНТРА** (ГІДРАМЕТЭАЦЭНТРА), дзяржаўнай установы (Мінск, 1999)

## *ВЕРАСЕНЬ*

**190** гадоў з дня нараджэння **ВОСІПА** (ІОСІФА ЦЭЗАРА) **ВІКЕНЦЬЕВІЧА ТУРЧЫНОВІЧА** (1824–?), вучонага-гісторыка, правазнаўца, аўтара працы “Агляд гісторыі Беларусі са старажытнейшых часоў” (1857) – першай сістэматызаванай гісторыі Беларусі з даўнейшых часоў да канца XVIII ст.

**90** гадоў з пачатку выдання навукова-практычнага медыцынскага часопіса **“ЗДРАВООХРАНЕНИЕ”** (Мінск; 1924)

**75** гадоў з часу заснавання ААТ **"ПІНСКІ МЯСАКАМБІНАТ"** (Пінск; 1939), прадпрыемства па перапрацоўцы мяса, лаўрэата конкурсаў "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь" (2003, 2009, 2010, 2012) і "Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь на рынку Расійскай Федэрацыі" (2007)

**70** гадоў з часу стварэння **ДЗЯРЖАЎНАГА АРХІВА ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ** (1944)

**70** гадоў з часу адкрыцця ў г. Жабінка **РАЁННАЙ БАЛЬНІЦЫ** (1944)

**65** гадоў з часу заснавання калгаса **"МОЛОДАЯ ГВАРДИЯ"** Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці (1949)

**1** **ДЗЕНЬ ВЕДАЎ**

**1** **75** гадоў з часу нападу Германіі на Польшчу і пачатку **ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ 1939–1945 гг.**

**2** **125** гадоў з дня нараджэння **КАНСТАНЦІНА ІВАНАВІЧА ШАПЯЛЕВІЧА** (1889, Мінскі р-н – 1976), мовазнаўца, краязнаўца, педагога, аўтара і суаўтара літаратурных чытанак і падручнікаў па беларускай мове для пачатковай школы

**4** **155** гадоў з дня нараджэння **БРАНІСЛАВА ІГНАТАВІЧА ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ** (1859, Полацкі р-н – 1934), дзеяча беларускай культуры, выдаўца, фалькларыста, мовазнаўца

**4** **130** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА АНДРЭЕВІЧА ВЯТОХІНА** (1884–1959), вучонага ў галіне фізіялогіі, члена-карэспандэнта НАН Беларусі, заснавальніка і старшыні Беларускага таварыства фізіёлагаў, біяхімікаў і фармаколагаў (1936–1959)

**5** **105** гадоў з дня нараджэння **ПЯТРА ІВАНАВІЧА ІВАШУЦІНА** (1909, Брэст – 2002), ваеннага дзеяча, генерала арміі, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза (1985)

**7** **ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА** (першая нядзеля верасня)

**7** **300** гадоў з дня нараджэння **МІХАЛА КАРЫЦКАГА** (1714, Лідскі р-н – 1781), паэта, педагога, грамадскага дзеяча

**7** **95** гадоў з дня нараджэння **АЛЕСЯ** (АЛЯКСАНДРА ХАРЫТОНАВІЧА) **АСІПЕНКІ** (1919, Віцебскі р-н – 1994), пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), лаўрэата Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1981)

**7** **50** гадоў з дня нараджэння **НАЦІКА НАДЗІРА-АГЛЫ БАГІРАВА** (1964, Азербайджан), спартсмена і трэнера (барацьба дзюдо і самба), заслужанага майстра спорту Беларусі, майстра спорту СССР, майстра спорту СССР міжнароднага класа, чэмпіёна (1991, 1992, 1997, 1998) і бронзавага прызёра (1999) чэмпіянатаў свету, чэмпіёна (1989, 1992, 1994, 1995, 1998), сярэбранага (1997) і бронзавага (1991) прызёра чэмпіянатаў Еўропы па самба, бронзавага прызёра чэмпіянатаў свету (1995, 1999) і чэмпіянатаў Еўропы (1995, 1999) па дзюдо, грамадскага дзеяча, старшыні Кангрэса азербайджанскіх абшчын у Беларусі

**8** **500** гадоў з часу **АРШАНСКАЙ БІТВЫ 1514 г.**, адной з буйнейшых бітваў у ходзе вайны паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ у 1512–1522 гг.

**8** **20** гадоў з часу стварэння рэспубліканскага біялагічнага заказніка **ЛУКАВА** (Маларыцкі р-н; 1994)

**9** **90** гадоў з дня нараджэння **АНАТОЛЯ ЕМЯЛЬЯНАВІЧА ГУРЫНОВІЧА** (1924, Чэрвеньскі р-н – 1999), дзяржаўнага дзеяча, дыпламата, Міністра замежных спраў Беларусі (1966–1990), кавалера ордэна Дружбы народаў

**10** **85** гадоў з дня нараджэння **ЯЎГЕНА АЛЯКСАНДРАВІЧА ГЛЕБАВА** (1929–2000), кампазітара, педагога, грамадскага дзеяча, акадэміка Міжнароднай Славянскай Акадэміі навук, адукацыі, мастацтваў і культуры, народнага артыста Беларусі і СССР, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1970)

**12** **180** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ ПЯТРОВІЧА АВЕНАРЫУСА** (1834–1903), дзеяча народнай асветы, археолага, краязнаўца, педагога, аднаго з заснавальнікаў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі

**12** **85** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ ЯГОРАВІЧА МАТУКОЎСКАГА** (1929, Расонскі р-н – 2001), драматурга, журналіста, заслужанага работніка культуры Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1988)

**13** **100** гадоў з дня нараджэння **РУВІМА ЯНКЕЛЕВІЧА ЯЎРАЕВА** (1914–1987), артыста оперы, заслужанага артыста Беларусі

**14** **ДЗЕНЬ ТАНКІСТАЎ** (другая нядзеля верасня)

**14** **130** гадоў з дня нараджэння **ФАБІЯНА АБРАНТОВІЧА** (1884, Навагрудскі р-н – 1946), рэлігійнага і грамадскага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў беларускага хрысціянскага руху

**15** **ДЗЕНЬ БІБЛІЯТЭК РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** (з 2001 г.)

**15** **115** гадоў з дня нараджэння **ПРАСКОЎІ ФЁДАРАЎНЫ ДЗМІТРУК** (1899, Камянецкі р-н – 1978), удзельніцы рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі

**15** **75** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА МІХАЙЛАВІЧА МЕЛЬНІЧУКА** (1939, Польшча), паэта

**16** **60** гадоў з дня нараджэння **ЛАРЫСЫ УЛАДЗІМІРАЎНЫ ЯЗЫКОВІЧ** (1954, Ганцавічы), вучонага-гісторыка, аўтара прац па пытаннях міжнароднай дзейнасці Беларусі, гісторыі беларускай дыяспары ў краінах блізкага і далёкага замежжа

**17** **230** гадоў з дня прэм’еры камічнай оперы Я.Д. Голанда **“АГАТКА, ЦІ ПРЫЕЗД ПАНА”**, першага вядомага арыгінальнага музычна-сцэнічнага твора, створанага і пастаўленага ў Беларусі (Нясвіж; 1784)

**17** **100** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ РЫГОРАВІЧА РАМАНАВА** (1914–2001), мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**17** **75** гадоў з часу **ЎЗ’ЯДНАННЯ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ З БССР** (1939), акта ліквідацыі падзелу Беларусі паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г.

**20** **ДЗЕНЬ МЫТНІКА**

**20** **95** гадоў з дня нараджэння **КАНСТАНЦІНА ІВАНАВІЧА МАКСІМЦАВА** (МАКСІМЦОВА; 1919, Гомель – 2004), жывапісца

21 **75** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛЯ АЛЯКСЕЕВІЧА ЖУКОВІЧА** (1939 ці 1940, Камянецкі р-н), пісьменніка

22 **70** гадоў з часу заснавання ў г. Брэсце **ЧЫГУНАЧНАГА ВУЧЫЛІШЧА** (1944)

23 **125** гадоў з дня нараджэння **ЯНА** (ІВАНА АЛЯКСЕЕВІЧА) **ТАРАСЕВІЧА** (1889–1961), беларускага і польскага кампазітара, музыканта, педагога, аўтара першых музычных твораў на вершы Ф. Багушэвіча, Я. Коласа, М. Багдановіча, збіральніка беларускага фальклору

23 **100** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА СЯМЁНАВІЧА ДМУХАЙЛЫ** (1914–2007), жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

23 **90** гадоў з дня нараджэння **АРТУРА ВІТАЛЬЕВІЧА ВОЛЬСКАГА** (сапр. ВОЛЬСКІ-ЗЭЙДЭЛЬ; 1924, Дзяржынск – 2002), паэта, празаіка, драматурга, перакладчыка

24 **110** гадоў з дня нараджэння **МАР'ЯНА ЯЗЭПАВІЧА ПЕЦЮКЕВІЧА** (1904, Браслаўскі р-н – 1983), беларускага і польскага этнографа, публіцыста, грамадскага дзеяча

26 **20** гадоў з часу заснавання рэспубліканскага біялагічнага заказніка **ТЫРВОВІЧЫ** (Пінскі р-н; 1994)

27 **105** гадоў з дня нараджэння **ЛУКАША КАЛЮГІ** (сапр. КАНСТАНЦІН ПЯТРОВІЧ ВАШЫНА; 1909, Дзяржынскі р-н – 1937), пісьменніка, перакладчыка

27 **90** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА ПЯТРОВІЧА ДАНІЛАВА** (1924, Драгічынскі р-н), вучонага ў галіне гематалогіі і трансфузіялогіі, выдатніка аховы здароўя СССР і Мангольскай народнай рэспублікі

28 **105** гадоў з дня нараджэння **ІВАНА ЦІМАФЕЕВІЧА ШАПАЧКІ** (1909–1994), удзельніка вызвалення Палескай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза (1944)

28 **60** гадоў з дня нараджэння **ТАЦЦЯНЫ АЛЯКСАНДРАЎНЫ ГРЫШКО** (1954, Пінскі р-н), спартсменкі (інваспорт, стральба з лука), чэмпіёнкі IX Паралімпійскіх гульняў (1992, Барселона), бронзавага прызёра чэмпіянату свету (1990), чэмпіёнкі (1991) і бронзавага прызёра (1991, 2006) чэмпіянатаў Еўропы, чэмпіёнкі СССР (1989–1991) і СНД (1992), мнагакратнай чэмпіёнкі Беларусі (1993–2004)

29 **485** гадоў з часу ўвядзення ў дзеянне **СТАТУТА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА 1529 г.**, першага Статута ВКЛ, звода законаў феадальнага права (1529–1566)

29 **110** гадоў з дня нараджэння **ЛЬВА УЛАДЗІМІРАВІЧА ГОЛУБА** (1904, Украіна – 1994), кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Польшчы, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968) і Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1972)

30 **100** гадоў з дня нараджэння **ДАНІЛЫ КАНСТАНЦІНАВІЧА МІЦКЕВІЧА** (1914, Пінск – 1996), вучонага-хіміка, сына Я. Коласа, збіральніка і папулярызатара спадчыны песняра, арганізатара Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

## *КАСТРЫЧНІК*

**85** гадоў з пачатку выдання газеты для дзяцей і падлеткаў **“РАНІЦА”** (Мінск; 1929)

**75** гадоў з часу стварэння ААТ **“БАРАНАВІЦКАЯ АБУТКОВАЯ ФАБРЫКА”** (Баранавічы; 1939)

**75** гадоў з часу стварэння **ПАДЛЕСКАГА НАРОДНАГА ХОРА** (Ляхавіцкі р-н; 1939)

**70** гадоў з часу адкрыцця ў г. Брэсце **МЕДЫЦЫНСКАГА КАЛЕДЖА** (1944), з пачатку заснавання – Брэсцкая фельчарска-акушэрская школа, з 1954 г. – Брэсцкае медыцынскае вучылішча, з 2003 г. – Брэсцкі медыцынскі каледж

**60** гадоў з часу стварэння **БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА АГРАРНАГА ТЭХНІЧНАГА ЎНІВЕРСІТЭТА** (Мінск; 1954), адной з вядучых вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, лаўрэата Прэміі Урада Рэспублікі Беларусь за дасягненні ў галіне якасці (2012)

**55** гадоў з пачатку выпуску першай прадукцыі ААТ **“ПІНСКІ ЗАВОД ШТУЧНЫХ СКУР”** (Пінск; 1959)

**50** гадоў з часу адкрыцця ў г. Брэсце **КІНАТЭАТРА “МАЯК”** (1964)

**35** гадоў з пачатку выдання навуковай інфармацыйна-аналітычнай газеты Беларусі **“ВЕДЫ”** (Мінск; 1979)

**1** **ДЗЕНЬ ПАЖЫЛЫХ ЛЮДЗЕЙ**

**1** **70** гадоў з часу стварэння **БРЭСЦКАГА АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ДРАМЫ ІМЯ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ**, заслужанага калектыва Рэспублікі Беларусь (Брэст; 1944)

**1** **55** гадоў з часу стварэння **ДЗЯРЖАЎНАГА АНСАМБЛЯ ТАНЦА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**, заслужанага калектыва Рэспублікі Беларусь (Мінск; 1959)

**2 ці 15** **195** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСАНДРА ПРЭЦЛАВА НЕЗАБЫТОЎСКАГА** (1818, Нясвіж ці Навагрудскі р-н – 1849), польскага і беларускага пісьменніка, філосафа, гісторыка

**2** **140** гадоў з дня нараджэння **МІХАЛА ЯЎСТАФІЯ БРЭНШТЭЙНА** (1874–1938), бібліятэкара, бібліёграфа, гісторыка культуры, краязнаўца, аўтара прац па гісторыі культуры, пісьменнасці, бібліятэк Літвы, Польшчы і Беларусі

**2** **50** гадоў з дня нараджэння **ЭНВЕРА РЫЗАЕВІЧА БАРЫЕВА** (1964), дзяржаўнага дзеяча Беларусі, генерал-маёра ўнутранай службы, міністра па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь (2005–2011)

**2** **50** гадоў з дня нараджэння **АЛЫ МІКАЛАЕЎНЫ КАВАЛЕНКА** (1964, Драгічынскі р-н), спартсменкі (хакей на траве, індархакей), бронзавага прызёра чэмпіянату Еўропы (2004), чэмпіёнкі Беларусі (1997–2004)

**3** **55** гадоў з часу адкрыцця ў г. Брэсце **КІНАТЭАТРА “МІР”** (1959)

**4** **270** гадоў з дня нараджэння **МІХАЛА ФРАНЦІШКА КАРПОВІЧА** (1744, Камянец – 1803), палітычнага і царкоўнага дзеяча, багаслова-

асветніка, удзельніка паўстання 1794 г.

4 **150** гадоў з дня нараджэння **АНТОНА МІКІТАВІЧА ЯСІНСКАГА** (1864–1933), вучонага-гісторыка, акадэміка НАН Беларусі, члена Чэшскай АН

5 **ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА** (першая нядзеля кастрычніка)

6 **ДЗЕНЬ АРХІВІСТА**

7 **65** гадоў з дня нараджэння **УЛАДЗІМІРА АЛЯКСАНДРАВІЧА ПАВЯДАЙЛЫ** (1949, Баранавіцкі р-н), вучонага-фізіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998)

8 **75** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ ВАСІЛЬЕВІЧА АСОСКАВА** (1939, Расія), мастака (станковы жывапіс і акварэль, палехская мініяцюра і габелен)

10 **85** гадоў з дня нараджэння **МАРАТА ІВАНАВІЧА КАЗЕЯ** (1929, Дзяржынскі р-н – 1944), піянера-партызана ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза (1965)

10 **80** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ ФЁДАРАВІЧА ВАРВАШЭВІЧА** (1934, Ганцавіцкі р-н – 2001), рэжысёра, заслужанага работніка культуры Беларусі

11 **105** гадоў з дня нараджэння **ЗІНАІДЫ АЛЯКСАНДРАЎНЫ БАНДАРЫНАЙ** (1909, Гродна – 1959), пісьменніцы

12 **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ КУЛЬТУРЫ** (другая нядзеля кастрычніка)

14 **ДЗЕНЬ МАЦІ**

14 **115** гадоў з дня нараджэння **АДАМА АНТОНАВІЧА БАБАРЭКІ** (1899, Капыльскі р-н – 1938), пісьменніка, крытыка, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў літаратурных аб’яднанняў “Маладняк” і “Узвышша”

15 **ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ФАРМАЦЭЎТЫЧНАЙ І МІКРАБІЯЛАГІЧНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ**

15 **105** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ РАКІТЫ** (сапр. СЯРГЕЙ ВАСІЛЬЕВІЧ ЗАКОННІКАЎ; 1909, Дубровенскі р-н – 1942), паэта

15 **70** гадоў з дня нараджэння **ЗІНОВІЯ КІРЫЛАВІЧА ПРЫГОДЗІЧА** (1944, Пінскі р-н), пісьменніка, лаўрэата прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2013)

15 **65** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСЕЯ МІКАЛАЕВІЧА ЯКІМОВІЧА** (1949, Слонімскі р-н), празаіка, драматурга

18 **105** гадоў з дня нараджэння **АЛЯКСЕЯ СЯРГЕЕВІЧА БЛАГАВЕШЧАНСКАГА** (1909, Брэст – 1994), ваеннага дзеяча, генерал-лейтэнанта авіяцыі, удзельніка нацыянальна-вызваленчай барацьбы Кітая супраць японскіх захопнікаў у 1937 г., удзельніка савецка-фінляндскай вайны 1939–1940 гг., вызвалення Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза (1938)

19 **30** гадоў з часу стварэння **БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА АНСАМБЛЯ НАРОДНАЙ МУЗЫКІ “СВЯТА”** (Мінск, 1984), лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1988)

20 **90** гадоў з дня нараджэння **ВАСІЛІЯ ДАНІЛАВІЧА МАХНОВІЧА** (1924–2007), Героя Сацыялістычнай Працы, Пачэснага грамадзяніна г. Брэста

21 **100** гадоў з дня нараджэння **КАЗІМІРА СВЁНТАКА** (1914–2011), рымска-каталіцкага царкоўнага дзеяча Беларусі, арцыбіскупа-мітрапаліта, кардынала

22 **70** гадоў з часу адкрыцця для наведвальнікаў **БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА МУЗЕЯ ГІСТОРЫІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ** (Мінск; 1944), заснаванага 30 верасня 1943 г.

24 **100** гадоў з дня нараджэння **МІКОЛЫ** (МІКАЛАЯ АНДРЭЕВІЧА) **ЖУКА** (1914, Слуцкі р-н – 1995)**,** паэта, педагога, выдатніка народнай асветы Беларусі

25 **130** гадоў з дня нараджэння **СЯРГЕЯ АНТОНАВІЧА ДУБІНСКАГА** (1884, Гродзенская губ. – 1937), вучонага-археолага, складальніка і выдаўца "Бібліяграфіі па археалогіі Беларусі і сумежных краін" (1933)

25 **85** гадоў з дня нараджэння **МІКОЛЫ** (МІКАЛАЯ ПЯТРОВІЧА) **ГРОДНЕВА** (1929, Рагачоўскі р-н – 2011), пісьменніка

26 **ДЗЕНЬ АЎТАМАБІЛІСТА І ДАРОЖНІКА** (чацвёртая нядзеля кастрычніка)

26 **75** гадоў з дня нараджэння **МІКАЛАЯ ІВАНАВІЧА МІШЧАНЧУКА** (1939–2012), літаратуразнаўца, крытыка, паэта, аўтара і суаўтара падручнікаў для вышэйшай і сярэдняй школы

27 **25** гадоў з пачатку выдання рэспубліканскай грамадска-палітычнай штотыднёвай газеты Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі **"БЕЛАРУСКІ ЧАС"** (Мінск; 1989)

28 **130** гадоў з дня нараджэння **ФЛАРЫЯНА ПАЎЛАВІЧА ЖДАНОВІЧА** (1884, Мінск – 1937), тэатральнага дзеяча, акцёра, рэжысёра, аднаго з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра

29 **85** гадоў з часу заснавання **НАЦЫЯНАЛЬНАГА ІНСТЫТУТА АДУКАЦЫІ МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**, навукова-метадычнай установы (Мінск; 1929)

## ***ЛІСТАПАД***

**90** гадоў з пачатку выдання штомесячнага масава-палітычнага і літаратурна-мастацкага часопіса **"АЛЕСЯ"** (Мінск; 1924)

1 **80** гадоў з часу стварэння **ВІЦЕБСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ МЕДЫЦЫНСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА** (Віцебск; 1934), установы адукацыі

1 **75** гадоў з часу стварэння **ДЗЯРЖАЎНАЙ АКАДЭМІЧНАЙ ХАРАВОЙ КАПЭЛЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ІМЯ Р.Р. ШЫРМЫ** (Мінск; 1939), заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь

1 **60** гадоў з дня нараджэння **МІХАІЛА МІХАЙЛАВІЧА ШЭЛЕХАВА** (1954, Столінскі р-н), паэта, кінасцэнарыста, драматурга, публіцыста, заслужанага журналіста Беларусі

